# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 34 (2228)

22 жніўня 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.


СТВАРЫЦЬ НАВАКОЛЬНАЕ АСЯРОДДЗЕ ЧАЛАВЕКА

## ЗА БЕДНУЮ КУЛЬТУРУ ЗАМОВІМ СЛОЎЦА

**Са старшынёй Камітэта па культуры Вярхоўнага Савета СССР народным мастаком СССР Уладзімірам СТАЛЬМАШОНКАМ гутарыць наш карэспандэнт Таццяна АНТОНАВА.**

**— Уладзімір Іванавіч, я вас шчыра віншую з выбраннем на такую адказную пасаду. Прыемна, што старшыня камітэта — наш зямляк, беларус. Але пра сам Камітэт па культуры я чамусьці мала ведаю. Раскажыце, калі ласка, хто ў яго ўваходзіць, чым ён займаецца.**

— Дзякуй за віншаванне. Справа ў тым, што наш камітэт створаны зусім нядаўна, месяцы тры-чатыры назад. Раней, як вы ведаеце, дзейнічала камісія па культуры пры Палаце нацыянальнасцей Вярхоўнага Савета СССР. Наш камітэт міжпалатны, мае шырокія паўнамоцтвы. У яго ўваходзяць прадстаўнікі ад кожнай рэспублікі. Усяго 49 чалавек. Прадстаўлены не толькі нацыі, але і народнасці СССР. Я вам назаву толькі некалькі прозвішчаў людзей, надзвычай аўтарытэтных, якія працуюць разам са мною: акадэмік Ліхачоў — старшыня Савецкага фонду культуры, патрыярх Алексій, артыст Кірыл Лаўроў з Ленінграда, рэжысёр Марк Захараў з Масквы, Міхаіл Ульянаў, таксама артыст, Алег Чарнышоў — дызайнер з Мінска, кандыдат філасофскіх навук. Ён плённа працуе з рабочымі групамі па заканадаўству. Ёсць таксама педагогі, прадстаўнікі грамадскасці, энтузіясты, якія шмат зрабілі для культуры, людзі нераўнадушныя, актыўныя, таленавітыя.

Камітэт па культуры пачаў дзейнічаць у даволі складаны час. Культура, мастацтва апынуліся, бадай што, у самым цяжкім становішчы, яны самыя не абароненыя ў грамадстве. Таму найпершая місія ў стварэнага камітэта — абараніць духоўную сферу, абараніць дзеячаў мастацтва, дапамагчы ім. Нешта ўжо і зроблена ў гэтым накірунку. Узяць хаця б нядаўні Указ Прэзідэнта СССР аб падаткаабкладанні творчых работнікаў. Якая ж была вайна ў парламенце пры абмеркаванні прынцыпаў падаткаабкладання творчых саюзаў і іх прадпрыемстваў! Ледзь не да бойкі даходзіла на камісіях, пакуль не знайшлі агульную мову, не зразумелі, што творчыя работнікі знаходзяцца ў спецыфічных умовах: для працы ім неабходна майстэрня, пэндзлі, фарбы, рамы, шкло, сродкі на выстаўкі. Дарэчы, льготнае падаткаабкладанне было яшчэ пры Леніне, нават і Сталін яго не адмяняў. І раптам у 1991 годзе такія навацыі — усіх ураўняць. Мы дамагліся таго, што творчыя саюзы, функцыянальная дзейнасць якіх накіравана на сваё ўласнае забеспячэнне, маюць права на льготнае падаткаабкладанне. Вельмі нам дапамагло ў гэтым тое, што саюзны бюджэт на культуру быў размеркаваны па рэспубліках. У Беларусі Міністэрства культуры мае цяпер удвая большы бюджэт, чым Мінкульт СССР. Менавіта таму ў Беларусі была паднята зарплата бібліятэкарам, работнікам музеяў, культасветустаноў. Міністр культуры Беларусі Вайтовіч на сёмым небе ад шчасця. Хаця інфляцыя, я заўважу, моцна "паела" выдзеленыя сродкі на культуру. Толькі ваеннае ведамства ўлічыла фактар інфляцыі, дадаўшы да свайго бюджэту пэўную суму.

**— Раней мы вельмі шырока ўжывалі тэрмін "савецкая культура". Кіраўніцтва ёю ажыццяўлялася з Цэнтра: для ўсіх аднолькавыя ўказанні, аднолькавыя мерапрыемствы, без уліку нацыянальных асаблівасцей, традыцый. А якія функцыі бярэ на сябе Камітэт па культуры? І ці існуе дзяржаўная канцэпцыя развіцця культуры ў СССР? З якіх прынцыпаў зыходзіць камітэт, складаючы свае праграмы і ствараючы Законы?**

— Савецкая культура. Сапраўды, што гэта такое? Я б не ўзяўся тлумачыць сутнасць самога паняцця. Надумана, прыдумана, і нічога болей. Паглядзіце, колькі згубілі нацыянальных культуры, прыкрываючыся тэзісам, што яны савецкія. Узяць хаця б у Беларусі: у заняпадзе мова, народнае мастацтва, промыслы... Цяпер мы пажынаем плады сістэмы, якая ўсіх хацела зраўняць, знівеляваць.

Міністр культуры СССР Мікалай Губенка, калі мы ўпершыню сустрэліся на камісіі па культуры і загаварылі з ім пра канцэпцыю развіцця, адраджэння культуры, сказаў, што ў яго шафы забіты рознымі канцэпцыямі. Сапраўды, канцэптуальныя распрацоўкі культуры больш за ўсё былі патрэбны некаторым дзеячам ад навукі. Яны атрымлівалі за гэта немалыя грошы. Але ўсе іх распрацоўкі складваліся і ляжалі мёртвым грузам. Таму што існавала адзіная сістэма: Палітбюро, ЦК КПСС. Усё, што яны вырашалі, было і канцэптуальна, і законна. Так было ў нас доўгія гады. І тады ўсе канцэпцыі разглядаліся пад адным ракурсам — наколькі яны адпавядалі самой ідэі марксізму-ленінізму. Зараз становішча зусім іншае. Суверэнныя рэспублікі працуюць над сваімі канцэпцыямі, якія ствараюцца з улікам нацыянальных асаблівасцей.

Але я згодны з вамі, што нам патрэбна саюзная дэкларацыя па

(Заканчэнне на 6-й стар.).

## ЛАД ЖЫЦЦЯ — САВЕЦКІ



Рубрыку, якую вы прачыталі над гэтым здымкам, мы далі не дзеля таго, каб пазларадніча ці, крый Божа, блюзнерыць. Яшчэ не так даўно афіцыйная ідэалогія не толькі заклікала сродкі масавай інфармацыі, нават загадвала прапагандаваць савецкі лад жыцця. І размова тут вялася не пра тое, каб паказваць наша жыццё такім, як яно ёсць, а брацца з яго толькі лепшае ды яшчэ прыхарошваць, лакіраваць, як у нас казалі. Таму па старонках нашых выданняў і па экранах кіно бясконца вандравалі адухоўленыя твары рабочых і калгаснікаў, мудрых пенсіянераў і бесклапотных школьнікаў, якія дзякавалі партыі за шчаслівую старасць і такую ж шчаслівую маладосць, дзякавалі наогул за тое, што мы жывём на свеце. І не было ў нашага грамадства ніякіх праблем: калі іншаземец бачыў даўжэзную чаргу, яму тлумачылі, што гэта за кнігамі ці ў тэатр, калі ён пытаўся, чаму ў савецкага рабочага такая нізкая зарплата, адказвалі: а яму і гэтага многа, ён жыве за кошт фондаў грамадскага развіцця і г. д. Калі ў Савецкім Саюзе здаралася землетрасенне, то амаль што ніколі не было ахвяр і разбурэнняў.

Цяпер, калі нас перасталі чмурыць, і мы самі, і людзі са староны ўбачылі нас такімі, якія мы ёсць. А гэта значыць, што ў нас, як і ў іншых народаў, ёсць чорнае, белае і шэрае, ёсць празмернае багацце, нажытае часцей за ўсё несумленна, ёсць нармальны дастатак, ёсць і галеча.

Безумоўна, перабудова прынесла нам новыя праблемы і новыя беды. Але яна робіць адну вельмі добрую справу: не вымагае ад нас крывадушнасці. Так, сёння ў нас, як і ў любым чалавечым грамадстве, ёсць усё: міласэрнасць і злачыннасць, гераізм і здрада, радасць і слёзы, бо мы людзі. Так, у Беларусі зараз жабрак на царкоўнай паперці ці ў пераходах мінскага метро, на вакзалах — з'ява штодзённая. Зрэшты, і жабракі бываюць розныя — адны працягваюць руку і просяць на кавалак хлеба, іншыя ж на тое, каб пахмяліцца. На целе ўсякага грамадства ёсць паразіты, і мы — не лепшыя.

Фота М. ЖЫЛІНСКАГА.

ПАЎНОЧНЫ КАНВОЙ



## ГАНАРОВЫ КАМАНДОР

13 жніўня прэзідэнт міжнароднага няўрадавага фонду "Вечная памяць салдатам" Анатоль Бязуглаў уручыў Старшыні Вярхоўнага Савета БССР Мікалаю Дземянцею дыплом Ганаровага камандора сусветнай дабрачыннай акцыі Паўночны канвой "Дэрвіш-91". Раней такія дыпломы атрымалі прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі Джон Мейджар і Прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў.

31 жніўня гэтага года спаўняецца 50 гадоў з дня прыбыцця ў Архангельск першага канвоя наших саюзнікаў па другой сусветнай вайне. Гэты канвой, які складаўся з шасці транспартаў, суправаджаўся ваеннымі караблямі Вялікабрытаніі і меў кодавую назву "Дэрвіш". Усяго за гады вайны ў нашу краіну і назад было праведзена больш чым 1 000 транспартаў.

Уручаючы дыплом М. Дземянцею, кіраўнік фонду падкрэсліў, што, хоць Беларусь геаграфічна размешчана ў баку ад паўночных мораў, гэтай акцыяй адзначаецца велізарны ўклад, які ўнёс народ рэспублікі ў разгром фашыстаў. У слове ў адказ Старшыня Вярхоўнага Савета БССР асабліва падкрэсліў той факт, што рашэнне па любому, нават самаму складанаму пытанню, можа быць знойдзена шляхам перагавораў, але ні ў якім разе не спробай прымянення ваеннай сілы.

САЦЫЯЛАГІЧНАЕ АПЫТАННЕ

## АБ САВЕЦКІХ МІЛЬЯНЕРАХ

З пяцідзесяці масквічоў — уладальнікаў вялікіх багаццяў або якія эдначасобна распараджаюцца шматмільённымі капіталамі сваіх фірмаў (акрамя дырэктараў дзяржаўных прадпрыемстваў), 51 працэнт лічыць немагчымым займацца бізнесам у СССР, не парушаючы заканадаўства. Вопыт фарцоўкі ў мінулым мелі 40 працэнтаў, мелі адносіны да ценявога бізнесу 40 працэнтаў, мелі канфлікты з праваахоўнымі органамі 22 працэнты.

90 працэнтаў лічаць, што нельга займацца бізнесам, не даючы хабар у розных дзяржінстанцыях. 63 працэнты маскоўскіх мільянераў даюць хабар работнікам выканкомаў, работнікам фінансава-кантрольных органаў — 58 працэнтаў, служачым тамажні і знешнегандлёвых арганізацый — 48 працэнтаў, народным дэпутатам розных узроўняў — 43 працэнты, работнікам міліцыі — 35 працэнтаў, работнікам суда і пракуратуры — 25 працэнтаў, работнікам партапарату — 23 працэнты, работнікам КДБ — 8 працэнтаў.

Апытанне савецкіх мільянераў правялі штотыднёвік "Московские новости" разам з групай вывучэння савецкай эліты Інстытута сацыялогіі АН СССР.

МУС ПАВЕДАМЛЯЕ

## МІЖРЭГІЯНАЛЬНАЯ ЗЛАЧЫННАСЦЬ У СССР

У падраздзяленнях па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю ў цэлым па краіне задзейнічана каля 2,5 тысячы чалавек. У той жа час на сёння міліцыя трымае ў полі зроку каля 5 000 злачынных груповак колькасцю ад 5 чалавек да паўтары тысячы кожная, паведамлена на прэс-канферэнцыі ў МУС СССР, прысвечанай міжрэгіянальнай злачыннасці ў краіне.

Адказваючы на пытанне, якая частка груповак шукае выхады за мяжу, кіраўнікі МУС прывялі як прыклад сумесныя прадпрыемствы. Іх зараз у краіне больш за 3 000, і толькі адна трэць з іх занята якой-небудзь вытворчай дзейнасцю. Астатнія, па словах міліцыі, заняты "адмываннем" незаконна нажытых грошай. Падобная сітуацыя склалася ў кааперацыі, якая, атрымаўшы крэдыт на развіццё каля 48 мільярдаў рублёў, вярнула ў казну ў выглядзе падаткаў і адлічэнняў толькі каля 4 мільярдаў.

МАХІНАЦЫІ

## УТОЙВАЮЦЬ ДАХОДЫ

Фінансавыя рэвізіі паказваюць, што утойванне даходаў, прыбытку, іншыя парушэнні падатковага заканадаўства ў параўнанні з 1990 годам сёлета павялічыліся амаль што ў тры разы. Аб гэтым паведаміў карэспандэнту газеты "Звязда" намеснік міністра, начальнік Галоўнай падатковай інспекцыі Міністэрства фінансаў БССР І. Макаед.

Калі летась "штрафнікі" вымушаны былі ўнесці ў бюджэт рэспублікі 76,6 мільёна рублёў, то толькі за першае паўгоддзе 1991-га — ужо 182,3 мільёна рублёў.

Утойваюць падаткі і тыя, хто мае патэнт на пэўную прыватную дзейнасць, і кааператары, і буйныя аб'яднанні, і калгасы. Асабліва "хварэюць" на заніжэнне прыбытку кааператывы — сёлета з іх ужо спагнана 10 мільёнаў рублёў.

ЛІСІЧКАВЫ БУМ

## ПАКУЛЬ МЫ СПІМ...

З леташняга года наш беларускі грыб — лісічка набыў, прынамсі, еўрапейскую славу. Раней у Францыі і Германіі лісічкі выкарыстоўвалі для прыгатавання стравы, а цяпер з іх робяць нейкія рэдкія цудадзейныя лякарствы. Лісічкі падняліся ў цане, лісічкі нарасхват.

Пастаўляе грыбы на экспарт "Белкаапсаюз". Ды апошнім часам у яго з'явіліся моцныя канкурэнты. Прыватныя асобы з Польшчы і рэспублік Прыбалтыкі цяпер аб'язджаюць усе рынкі і вёскі ды скупляюць лісічкі ў сялян, каб затым перапрадаць іх за мяжу і мець з гэтага тавару добры прыбытак. Праўда, ёсць дзяржаўная граніца, ёсць таможня, але для людзей хваткіх няма перашкод.

Плацяць грыбнікам "вольныя прадпрымальнікі" не скупа — ад 25 да 60 рублёў за кілаграм, а нашы нарыхтоўшчыкі могуць спакусіць толькі 6-ю рублямі за кілаграм. Дзіва што цяпер на лісічкі "палююць" цэлымі вёскамі, нават з каранямі выдзіраюць.

ФОТААВАНГАРД

## ВЫСТАВА Ў ЛОНГ АЙЛЕНД

Работы пяці маладых мінскіх фотамайстроў упрыгожылі мастацкую галерэю універсітэта Лонг Айленда (штат Нью-Йорк). Тут прайшла выстава "Фотаманіфест "Фатаграфія перабудовы", якую памагла арганізаваць выкладчык універсітэта Эн Чвакі — патомак беларускіх эмігрантаў.

Больш як месяц знаёміліся амерыканцы з творамі беларускага фотаавангарда, які працягвае традыцыі 20-х гадоў. На спецыяльным сімпозіуме "Савецкае мастацтва і палітыка — рэнесанс?" гучалі імёны мінскіх фатографаў Сяргея Кажамякіна, Галіны Маскалёвай, Уладзіміра Парфенкі, Ігара Саўчанкі і Уладзіміра Шахлевіча.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● Жыхар Касцюковіч Яўген Дрозд без дазволу гарадскіх улад ночку вывесіў над будынкам райвыканкома замест дзяржаўнага нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг. "Парушальніка" парадку хутка знайшла міліцыя. Сцяг знялі.

● У Беларусі створана рэспубліканскае таварыства савецкіх немцаў "Адраджэнне". Яго мэта — садзейнічанне канцаліданцыі немцаў у СССР, аднаўленне Нямецкай Аўтаномнай ССР на Волзе, якая існавала да 1941 года. У нашай краіне пражывае больш за 2 мільёны грамадзян нямецкай нацыянальнасці, у Беларусі — 3,5 тысячы.

● Споўнілася 25 гадоў Брэсцкаму электралямпаваму заводу. Штодзённа ён выраблае больш за мільён электралямпачак, якія карыстаюцца попытам у 50 краінах свету. Таму, відаць, днём за агнём іх не знойдзеш у нашых магазінах.

● У Беларусі стварaецца незалежны прафсаюз гарнякоў. Першыя яго арганізацыі ўзніклі ў Салігорску, сярод шахцёраў калійнага камбіната. Тут прафсаюз ужо аб'ядноўвае 500 чалавек. Цяпер да іх далучаецца частка рабочых вытворчага аб'яднання "Граніт" у Мікашэвічах.

● Дэфіцыт бюджэту беларускай сталіцы пераваліў за 450 мільёнаў рублёў. Каб ратаваць горад, мяркуецца ўвесці новыя падаткі. У прыватнасці, гасцям, магчыма, прыйдзецца плаціць за ўезд у Мінск.

ФАКТ І КАМЕНТАРЫЙ

## АПОШНІ САРАТНІК СТАЛІНА

У Маскве ціха памёр Лазар Кагановіч. Ішоў яму 98-мы год, і ён быў апошнім з жывых найбліжэйшых саратнікаў Сталіна.

У яго лёсе, як, магчыма, ні ў якім іншым, пераплявіся ўсе крайнасці і супярэчнасці сістэмы, бляск і галеча не лідэраў, недарэчнасці тэорыі і практыкі. Выхадзец з беднай яўрэйскай сям'і ў глухой украінскай вёсцы, маладым рабочым-гарбаром далучыўшыся да бальшавікоў і пастаянна чуючы ад сваіх бацькі, што ўсё роўна, маўляў, нічога ў яго ў жыцці не атрымаецца па прычыне нацыянальнасці, Лазар Кагановічператварыўся ў 20—30-я гады ў афіцыйнага ідала для савецкіх працоўных. Крыху ўступаў ён хіба што самому правадыру народаў.

Яго імем у тыя гады называліся населеныя пункты, заводы, маскоўскі метрапалітэн, узведзены, дарэчы, пад яго куратарствам. У ЦК кампартыі Кагановіч трапіў яшчэ пры Леніне. У 1924 годзе ён быў ужо першым чалавекам на Украіне, а ў 30-м — у Маскве. З 1925 года — сакратар ЦК бальшавіцкай партыі, з 28-га — член Палітбюро. Кагановіч кіраваў арганізацыяй вядомага XVII з'езда, і многія гісторыкі сцвярджаюць, што менавіта ён запатрабаваў не ўлічваць галасы, пададзеныя супраць Сталіна. У ноч, калі Гітлер напаў на СССР, Кагановіч быў у ліку тых вышэйшых кіраўнікоў краіны, з якімі вёў нараду у Крамлі Сталін.

А ў 1961 годзе Кагановіч разам з Молатавым і некалькімі іншымі членамі Палітбюро, што выступілі супраць Хрушчова, быў выключаны з кампартыі. Для людзей той фармацыі гэта было раўназначна грамадзянскай смерці.

У саракавыя гады школьнікі спявалі песні пра ўсмешку Кагановіча — сталінскага народнага камісара. А сёння многія з савецкіх дзяцей скажуць, што ўпершыню чуюць гэтае прозвішча. Калі Кагановіч збіраў паперы, неабходныя для павелічэння пенсіі, у ЦК яму адмовілі ў даведцы, што ён быў сакратаром гэтага органа, у Савеце Міністраў — што 20 гадоў працаваў першым намеснікам старшыні Савецкага ўрада. Калі ён сцвярджаў, што пра ўсе яго пасады і рэгаліі можна прачытаць у энцыклапедыях, атрымаў адказ: "Энцыклапедыі для нас не дакумент". Няма цяпер ні пасёлкаў, ні фабрык яго імя, а сталічны метрапалітэн носіць імя Леніна.

Трагічна супярэчлівы жыццёвы шлях Кагановіча, не менш супярэчлівымі былі і яго погляды пад канец жыцця. Ён быў супраць таго, каб "зацямняць вялікае і станоўчае", што зрабіў Сталін. Ворагаў жа светлай ідэі, на яго думку, не трэба было знішчаць фізічна. Так, іх трэба было "расстраляць, загубіць, пабіць", але толькі "ідэалагічна". Будучы найбліжэйшым саратнікам і паплечнікам ледзь ці не самага крывавага ў гісторыі дыктатара, Кагановіч заявіў некалькі месяцаў назад, што яму няма ў чым каяцца. Пры гэтым гаварыў ён і пра сваю павагу да Гарбачова, і пра падтрымку цяперашняй лініі кампартыі, якая, як вядома, рашуча адмяжоўваецца ад сталінізму. Кагановіч нават успамінаў, што на тым самым XVII з'ездзе ў 1934 годзе рэзалюцыя па яго дакладу пачыналася са слова "перабудова". "Такім чынам, тыя, хто зараз лічыць, што "перабудова" — новае слова, сказанае ў 1985 годзе, не маюць рацыі, таму што гэта слова ўжывалі і Ленін, і Сталін, і ўсе мы — іх вучні", — лічыў ён.

Супярэчлівымі былі адносіны да Кагановіча і тых, хто яшчэ пра яго помніў. Для адных яго імя асацыіравалася з мільёнамі загубленых жыццяў. Для другіх — са звонкімі песнямі бясклапотнага дзяцінства. Трэція, сутыкаючыся з недахопамі ў рабоце транспарту, уздыхаючы, што пры Кагановічы паязды ніколі не спазняліся.

Апошнія гады Кагановіч адасоблена жыў у шматкватэрным доме на набярэжнай Масквы-ракі, ні з кім не сустракаючыся, не выходзячы на вуліцу, не прымаючы журналістаў. Год назад ён перанёс першы інфаркт, мінулым вераснем аслеп, перад гэтым пашкодзіў бядро і перасоўваўся толькі на мыліцах. Гавораць, тым не менш, што па начах ён працягваў працаваць над мемуарамі і рэгулярна, па два разы ў год, звяртаўся ў ЦК КПСС з просьбай аб аднаўленні ў партыі.

Ілля ПРАЦЭНКА.

ФІЛАТЭЛІЯ

## ПРЫСВЕЧАНА О. ШМІТУ

Міністэрства сувязі СССР выпусціла новы маркіраваны канверт, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння славутага магілёўчаніна, Героя Савецкага Саюза О. Ю. Шміта.

Ота Юльевіч намаляваны на фоне вядомага лагера у Арктыцы, дзе змагаліся за жыццё і чакалі дапамогі ўдзельнікі экспедыцыі на "Чэлюскіне". Дарэчы, гэта ўжо другі маркіраваны канверт савецкай пошты, прысвечаны нашаму земляку.

У "БРУДНЫХ РАЁНАХ"

## РАДЫЕЛАГІЧНАЕ АБСЛЕДВАННЕ

Першыя радыяцыйныя карткі падвор'яў з узроўнем забруджвання ад аднаго да пятнаццаці кюры на квадратны кіламетр складзены ў Быхаўскім раёне.

— Яны перададзены ў выканком раённага Савета народных дэпутатаў, — каменціруе дырэктар Магілёўскага абласнога цэнтра па гідраметэаралогіі і радыяцыйнаму кантролю Алег Максюта. — Там канкрэтна вырашаць, дзе праводзіць дэзактывацыю, якія культуры вырошчваць.

У нашай лабараторыі ўстаноўлена найноўшае абсталяванне па аналізу ўзроўню забруджвання глебы радыенуклідамі. Проба правяраецца ўсяго за дзесяць мінут.

## ШТО РАІЦЬ ПРАФЕСАР СКОТ НОРВУД

# РЭЦЭПТ ЗАМЕЖНАГА ГОСЦЯ

**Імя амерыканскага вучонага ў галіне эканомікі Скота Норвуда добра вядомае не толькі на яго радзіме ў ЗША, але і ў нашай краіне. Прафесар універсітэта — спецыяліст па менеджменту. Ён прыняў запрашэнне беларускага ўрада ўвайсці ў састаў эканамічнага савета. Шмат часу прафесар прысвяціў распрацоўцы ідэі двайных прадпрыемстваў.**

**Нядаўна С. НОРВУД даў інтэрв'ю карэспандэнту газеты "Звязда", якое мы прапануем чытачам "Голасу Радзімы".**

На пытанне: як ён ацэньвае стан эканомікі рэспублікі і якія яго прагнозы наконт магчымых шляхоў яе развіцця, прафесар адказаў:

— Я не аптыміст і не песіміст, хутчэй рэаліст, а таму не хачу выказваць ніякіх прагнозаў ні на бліжэйшы, ні на больш аддалены час. Зыходжу з рэалій дня. На падставе ўжо тых кантактаў, якія ў мяне былі на ўзроўні вашага прэм'ер-міністра, членаў урада, магу смела сказаць, што ў вас неблагія кіраўнікі, якія валодаюць неабходным аб'ёмам прафесіянальных ведаў, рашуча выступаюць за пераход рэспублікі да рыначных адносін. Я бачу рэальныя магчымасці хуткага развіцця вашай эканомікі. Але для гэтага спатрэбіцца пэўны час. І тут многае, на маю думку, будзе залежаць ад дзейнасці двайных прадпрыемстваў.

Калі ваш урад хоча хуткімі тэмпамі мадэрнізаваць сваю эканоміку, трэба смела ісці на шырокамаштабнае выкарыстанне замежных інвестыцый, найноўшых тэхналогій, менеджменту. Гэта дасць магчымасць забяспечыць канкурэнтаздольнасць савецкіх вырабаў, каб змяніць сітуацыю паўізаляцыі на самае шырокае прадстаўніцтва на сусветных рынках.

— А што, на вашу думку, можа паспрыяць рэалізацыі ідэі аб двайных прадпрыемствах?

— Ажыццяўленне гэтай ідэі патрабуе зацікаўленасці ўрада краіны, шырокай падтрымкі як цэнтральных улад, так і ўлад рэспубліканскага і нават мясцовага ўзроўню. Урад павінен цвёрда вызначыць сваю пазіцыю наконт стварэння двайных прадпрыемстваў. І калі гэта канцэпцыя будзе прынята, улады абавязаны забяспечыць спрыяльныя ўмовы, каб зацікавіць замежныя карпарацыі.

Існуюць дзве мадэлі двайных прадпрыемстваў. Першая заснавана на выкарыстанні перадавой замежнай тэхналогіі, выпуску тавараў, якія ўжо зарэкамендавалі сябе на сусветным рынку. Пэўная фірма будзе ўкладваць у канкрэтнае савецкае прадпрыемства сродкі, аснашчаць яго найноўшым абсталяваннем, а савецкія рабочыя і спецыялісты — вырабляць тавары, у асноўным прызначаныя на экспарт. Прыкладна палавіна зарплаты ім будзе выплачвацца савецкімі грашамі, каля дваццаці працэнтаў яе складуць свайго роду купоны, боны, ці як іх там назавуць, якія затым можна будзе атаварыць у магазіне непасрэдна на прадпрыемстве. Вядома, тавары там будуць замежнай вытворчасці. І, нарэшце, астатнія трыццаць працэнтаў зарплаты будуць налічвацца ў валюце. Аднак работнікі яе на рукі не атрымаюць, бо ўся валюта прызначана для наступнага выкупу прадпрыемства.

У выніку праз некалькі гадоў калектыў, назапасіўшы неабходную колькасць валюты, можа поўнасцю выкупіць вытворчасць. Адначасова за гэты час работнікі пройдуць добрую школу менеджменту, што вельмі спатрэбіцца ім, калі яны стануць поўнаўладнымі гаспадарамі прадпрыемства. Тады ўжо калектыў зможа самастойна выходзіць на замежны рынак з уласнай прадукцыяй.

Другая мадэль двайнога прадпрыемства базіруецца на выкарыстанні найноўшых савецкіх распрацовак. І да гэтага часу СССР для Захаду — супердзяржава. На некаторых вашых прадпрыемствах ёсць прадукцыя, якая ўжо сёння магла б зацікавіць самых патрабавальных замежных спажыўцоў. Больш таго, пэўныя савецкія распрацоўкі наогул не маюць аналагаў у свеце. Іншая справа, што вам нестае сродкаў, каб рэалізаваць іх (чым больш дасканалыя вырабы, тым даражэйшая іх вытворчасць), вымушае жадаць лепшага і тэхналогія. І тое, і другое могуць гарантаваць адпаведныя замежныя фірмы, якія пажадаюць укласці свае сродкі ў двайныя прадпрыемствы. Астатняе — як і ў першай мадэлі. Дарэчы, з мінскім навукова-вытворчым аб'яднаннем "Цэнтр" ужо вядуцца перагаворы аб стварэнні двайнога прадпрыемства, заснаванага на другой мадэлі, з выкарыстаннем найноўшых савецкіх распрацовак.

Прычына, чаму Савецкі ўрад павінен аддаць перавагу менавіта двайным прадпрыемствам, у тым, што гэта форма вытворчасці можа гарантаваць калектывам розныя даброты, якія не дадуць ім ні сумесныя прадпрыемствы, ні прамыя інвестыцыі. Гэта і найноўшая замежная тэхналогія, а адпаведна — канкурэнтаздольнасць тавараў, і хуткі выхад на сусветныя рынкі.

— А ці ёсць прыклады эфектыўнай работы двайных прадпрыемстваў?

— Не, пакуль што гэта ідэя яшчэ ў стадыі выспявання. І наогул, гэта форма арганізацыі вытворчасці была распрацавана спецыяльна для Савецкага Саюза. Можна прывесці прыклады, калі і ў іншых краінах калектывы выкуплялі прадпрыемствы ў прыватных карпарацый і потым нядрэнна вялі справу. Дарэчы, падобнае ёсць і ў ЗША. Але гэтыя праграмы мала чым падобныя на двайныя прадпрыемствы. Тут свае асаблівасці, у тым ліку палітычнага і эканамічнага характару.

Ужо многія прадпрыемствы гатовы разгледзець і прыняць ідэю двайнога прадпрыемства. Паўтараю, многае будзе залежаць ад пазіцыі вашага ўрада. Трэба вырашыць шэраг пытанняў, напрыклад, адносна ставак падаходных падаткаў, падатку на прыбытак, арэндных ставак на зямлю. Каб прадпрыемства працавала паспяхова, на першым часе яму неабходны хоць бы нейкія канкрэтныя прывілеі, асабліва што датычыць падаткаабкладання. Падатковыя стаўкі павінны быць невысокімі, таможныя пошліны — раўняцца нулю, а арэнда зямлі — свабоднай, прынамсі, хоць на нейкі пэўны перыяд, напрыклад, на 10 гадоў.

Калі я нядаўна быў у Маскве, працаваў з савецкімі юрыстамі. Мы распрацоўвалі палажэнне аб двайных прадпрыемствах. Спадзяюся, што гэта палажэнне будзе разгледжана ў пэўных інстанцыях. Трэба перагледзець шэраг законаў (недзе ад 7 да 11), каб забяспечыць прававую аснову функцыяніравання двайных прадпрыемстваў. Словам, наперадзе яшчэ нямала розных перашкод, якія давядзецца пераадольваць абодвум бакам.

— І апошняе. Хоць некалькі слоў пра сябе...

— Я — прафесар арганізацыі менеджменту ў школе бізнесу дзяржаўнага універсітэта Сан-Хасе (штат Каліфорнія), з 1965 года — член выкладчыцкага савета універсітэта. На працягу многіх гадоў працаваў кансультантам па менеджменту і маркетынгу, меў непасрэдныя сувязі з кампаніяй па вызначэнню радыяцыйнага ўзроўню. Я быў там членам праўлення на працягу 23 гадоў, 5 гадоў з'яўляўся старшынёй выканаўчага камітэта, на працягу 11-ці — членам праўлення дырэктараў. Апрача таго, працаваў у разнастайных абаронных асацыяцыях, у прыватнасці, у асацыяцыі сухапутных войск, асацыяцыі паветраных сіл, ваенна-марской лізе ЗША. У мяне наогул было шмат розных пасад у розных арганізацыях. Я — член нацыянальнага праўлення дырэктараў, член нацыянальнага выканаўчага камітэта і старшыня нацыянальнага камітэта планавання.

Па сацыяльнаму паходжанню я недзе, як прынята гаварыць, выхадзец з сярэдніх слаёў, бацька быў марскім афіцэрам, а маці пэўны час працавала ў шэрагу дзяржаўных устаноў. У свой час скончыў універсітэт у Лос-Анджэлесе, потым школу бізнесу ў Гарвардскім універсітэце, а далей ужо — школа жыцця.

Гутарыў **У. ГОЙТАН.**

# З ВАКЗАЛА ПАЧЫНАЕЦЦА ГОРАД





**Сёння Прывакзальная плошча Мінска апранулася ў будаўнічыя рыштаванні, абгарадзілася высокім плотам, з-за якога даносіцца гул бульдозераў, грузавых аўтамабіляў. Узводзіцца новы вакзал на месцы старога.**

**Які ён па ліку, пачынаючы з 1871 года, калі быў узведзены першы, драўляны? Той вакзал, што многія нашы землякі за мяжой памятаюць пад назвай Віленскі, ці Лібава-Роменскі. Цяжка і ўзгадаць. Хаця справа не ў нейкай там статыстыцы ці гістарычных даведках. Пасажыры імі карміцца не будуць. Ім падавай у час іх падарожжаў ці паездак хоць элементарны камфорт: каб выпіць шклянку гарбаты, купіць свежы нумар газеты, хвілінку адпачыць перад адпраўленнем цягніка. Па вакзалу, гэтых варотах горада, можна скласці ўяўленне аб тутэйшых жыхарах — іх ветлівасці, гасціннасці, дабрыні...**

**Ужо ўзведзены шматпавярховы адміністрацыйны корпус. Тут працуе гасцініца на 163 месцы, пакой маці і дзіцяці, непасрэдна над чыгуначным палатном — зала чакання. У пасажыраў быццам бы праблем з камфортам няма. Але, як заўжды ў нас, добрае азмрочваецца нейкімі дробязямі: каб набыць білет, трэба адстаяць у чарзе некалькі гадзін — у той час, як у горадзе адкрыты новыя касы, толькі пра іх мала хто ведае; ідзе дождж ці спёка на двары, а ў тую ж залу чакання ніхто не можа знайсці ўваход...**

**Праўда, гэта часовыя няўвязкі, справу няцяжка выправіць. Нас жа, мінчан, хвалюе адно: калі і якім будзе новы вакзал, ці ўпішуцца новыя будынкі у архітэктурнае аблічча Прывакзальнай плошчы, той плошчы, якой мы так даражым, з якой пачынаецца горад...**

**Яўген ІВАНОЎ.**

**НА ЗДЫМКАХ: на будаўніцтве новага вакзала; адміністрацыйны корпус.**

**Фота Ю. ЗАХАРАВА.**




**89**

І хоць над галавой вісеў востры меч камітэту на выдачу стыпэндыі, хоць трэба было здаць пэўную колькасьць экзаменаў, — ён ня мог працаваць. Ён блукаў, як няпрытомны, па шумных залях Студэнцкага дому — толькі каб пабачыць яе, пачуць гук яе голасу, яе звонкі сьмех і дыхнуць парфумы, ап'яняўшае думкі, як віно. Ён быў шчасьлівы, калі яна хоць на мінуту затрымлівалася з ім на мяккім дыване ў зале, дзе выбіваў свае гукі раяль і стукаў більярд, і хоць на сьмех, мімаходам кідала некалькі нічога ня значачых фраз. Ён запісываў у штодзеньніку той дзень, калі яна гутарыла з ім даўжэй на якія-небудзь літэратурныя ці філязофскія тэмы. І ён быў зусім няшчасны, загублены, калі ня мог знайсці яе ў Студэнцкім доме. Ён чуў сябе такім адзінокім, так агалялася перад ім пустота жыцьця, што толькі чаканьне заўтрашняга дня, спатканьне стрымлівала яго ад таго, каб не зваліцца ў адчыняўшуюся перад ім яму... Ён гатоў быў, здаецца, аддаць ёй усе свае сілы, усе думкі, сваё жыцьцё. А яна?

Ні для каго не было сакрэтам, што яна кожны дзень гуляла з Загорскім. Тугоўскі ня мог ня чуць тых шопатаў, якія даносіліся з боку студэнтаў да яго вушэй. Ён ня мог без трывогі глядзець, як яна зьнікала з яго вачэй пад ручку з Загорскім... І ўсё ж такі ён песьціў сябе надзеяй, што калісьці Вярхоўская зразумее яго душу, яна не прамяняе яго на Загорскага. Яна была передавая жанчына, яна належала нават да сацыялістычнага "паступовага аб'яднаньня", да якога належаў ён, і няўжо яна адкінула-бы яго за тое, што ён ня быў элегантным, што ён быў нялоўкі, як селянін у ботах, папаўшы ў паркетную залю. Напэўна яна зразумела-б яго, калі-бы ён напісаў ей ліста і выказаў

**90**

ей свае сумненьні, калі-б ён напісаў ей, што радзіўся на сьметніку, але ўсё жыцьцё сваё цягнуўся да сонца. Ён мог-бы напісаць ей, што "кахае яе за яе погляды, за яе "сьвецкасьць", за тое, што ў яе яшчэ ёсьць ідэалы і яна гарыць чымсьці вышэйшым, ня так, як іншыя жанчыны, якія ўяўляюць з сябе толькі, кажучы груба, кавалак мяса, якому мейсца толькі на кухні...

"Прывет вам і паклон, сьвядомыя жанчыны!.. — так пісаў ён у сваім штодзеньніку. — Як кахаю вас!.." — І ўсё-ткі пісаць гэтага Вярхоўскай не адважыўся. Ён чакаў. Ён толькі сачыў за яе рукамі, і сэрца яго лавіла яе лёгкую паходку і білася ў такт яе крокаў.

Між тым у Студэнцкім доме яшчэ больш сталі ўпарта гутарыць аб тым, што хутка павінна адбыцца беларускае вясельле. Настроі Тугоўскага апалі, як пажоўклыя лісты з дрэва.

— А што, калі гэта запраўды магчыма? — Ізноў зарухаўся чарвяк тугі і пачаў грызьці яго сэрца. — Няўжо ён ня варты яе? Няўжо-ж ён ня варты яе каханьня?

## КВАДРА ДРУГАЯ

### I

Прыйшла цёплая чэская зіма, падобная да беларускай восені. Сьнег закружыўся над вуліцамі ў нейкім безупынным скоку, быццам нейкая здань у прыгожым скоку сьмерці, й бяссільны валіўся на зямлю, сьцякаў вадой па каменьнях. Вуліцы блішчэлі.

На бальконе Студэнцкага дому было бязлюдна. Толькі час ад часу які-небудзь студэнт ці студэн-

**91**

тка прабягалі па мокрай кафельнай падлозе і адчынялі дзьверы ў цёплую шумную залю. У залі студэнты стаялі гурткамі каля раялю, каля століка, каля більярдаў і ўнасілі свае зацемкі ў гульню. Некаторыя хадзілі ўзад і ўперад, гутарачы аб справах. У далёкім кутку, згуртаваўшыся, стаялі беларускія студэнты і рупліва гутарылі. Па іх сур'ёзных і зацікаўленых тварах відаць было, што справа была важная. У цэнтры гутаркі стаяў "айцец" Кірыла і, са сваей заўсёднай усьмешкай выслухіваў пытаньні, ляцеўшыя адусюль.

— Ну як, як? — пыталі ўсе. — Як мая справа ў камітэце па праверцы экзаменаў?

— А як мая? Каго-небудзь ськінулі са стыпэндыі?.. Можа быць мяне?

— Грамадзяне! — адказываў Кірыла. — Я, як ваш прадстаўнік у камітэце па праверцы экзаменаў, мушу зазначыць, што я з усіх сіл адстаіваў студэнтаў. Але пры ўсім маім жаданьні я ня мог адстаяць Загорскага. Яго скінулі зусім са стыпэндыі — за непрадстаўленьне вестак аб сваіх посьпехах. Гэта адзін беларус, грамадзяне, якога скінулі са стыпэндыі. Яшчэ вельмі дрэнная справа з Тугоўскім. Яго пакінулі на стыпэндыі, але ён не прадставіў вестак, і таму яго перавялі з поўнай дапамогі на частковую, апрача гэтага, яму прыдзецца пераехаць з прыватнай кватэры ў інтэрнат. А так, грамадзяне, усё добра. Адносна ўсіх іншых студэнтаў ніякіх спрэчак не было. Апошнія іспыты прыдзецца здаваць вясной. А да гэтага ніхто больш трывожыць нас ня будзе.

Усе аблегчана ўздыхнулі. Кожны думаў: "Як добра, што мяне мінула горкая чаша".

— Што цяпер будзе з Загорскім? — пытаў высокі чырвоны студэнт Бурак, выказваючы

**92**

зацікаўленьне...

— Ну, Загорскі не прападзе, — усьмяхнуўся Кірыла.

— Ведаеце, грамадзяне, навіна, — прамовіў, высунуўшыся наперад маленькі тоўсьценькі Малевіч. — Я чуў ад самога Загорскага. Ён зрабіў такую кар'еру, што можна зусім махнуць рукой на стыпэндыю... Напэўна, ні адзін з нас ня зробе такой кар'еры. Ён закахаўся ў адну багатую чэшку, якая служа дзесьці прыказчыцай у нейкай багатай чэскай фірме, мае сваю вілу і, галоўнае, слухайце, слухайце, грамадзяне, дала яму падпіску ў тым, што будзе выдаваць штомесячна 600 крон чэскіх, пакуль ён не атрымае палову дактарату...

— Ня можа быць, — крыкнулі студэнты ў адзін голас.

— 600 крон — гэта больш нашае стыпэндыі, — прадоўжываў Малевіч. — Грамадзяне, мне сам Загорскі паказаў такую распіску, я бачыў яе ўласнымі вачыма. Я бачыў, грамадзяне, таксама гэтую пані, тоўстую, як усе чэшкі, і на гадоў восем старэй за яго, з якой яны ішлі пад ручку на вуліцы.

— Што ты? — засьмяяўся Бурак, — Кахае; як павук.

— Чаму вы думаеце, — прадоўжываў Малевіч, не зьвяртаючы ўвагі на зацемку Бурака, — што гэта немагчыма? Вы падумайце. Яна ўжо пажылая чэшка, напэўна, небяспечнага ўзросту. Як усе чэшкі, яна прагне гонару:"cizinec" — чужаземец-студэнт, малады і элегантны, стане доктарам, кандыдатам. Яшчэ праз нейкі час ён будзе доктарам. "Чаму мне не дапамагчы яму матар'яльна дакончыць навукі, каб потым стаць самой "пані доктаравай". Усё роўна чэх-доктар ніколі не за-

**93**

хоча завясьці "раману" з прыказчыцай. Так "раман" магчымы толькі з "цызынцам". І яна кідаецца на шыю маладому студэнту і пераймае яго нават на сваё ўтрыманьне.

— Так, гэта магчыма, — пацьвярдзіў другі высокі студэнт Карусь, з голасам, як ерыхонская труба. — Я ведаю ў Падэбрадскай сельскагаспадарчай акадэміі некалькі ўкраінцаў, такім самым чынам улаштаваных на "паёк" да чэшак. Цяпер жывуць, маюць дзетак і канчаюць вучыцца...

— Ну, — умяшаўся "айцец" Кірыла, — гэтакая не па смаку Загорскага. Ён праз месяц уцёк-бы ад сваей "пані доктаравай", каб яна пачала-б яму маляваць сямейскае шчасьце мяшчанкі-чэшкі. Нават, грамадзяне, каб дапусьціць, што дзеля грошаў Загорскі зьмяніў-бы і свае смакі, дык ня можна дапусьціць, каб практычная чэшка доўга магла-б кідаць грошы на вецер. Я думаю, што яна павінна была паставіць Загорскаму якія-небудзь варункі: перш зя ўсё вытрымаць усе экзамены ў свой час, каб стаць доктарам. Гэта такі, грамадзяне, кантроль, што ён горш самога камітэту. Жанчына кожны раз трымае цябе ў сваіх руках — кантралюе кожны твой крок, кожны дзень, абыймаючы цябе за шыю, пытаецца: "Які ты здаў сяньня экзамен?" А калі ты ей ня будзеш падабацца, яна пакажа табе пальцам на дзьверы. Я гляджу, што гэта тое самае, што пайсьці ў прымакі. А ў нашым беларускім народзе недарма склалася прыказка: "Прымацкі хлеб сабацкі". Я Загорскаму зусім не зайздрую, грамадзяне. Калі ён так зрабіў, я магу сказаць толькі:"Бедны Загорскі, як нізка ён упаў маральна, калі просе хлеба ў жанчыны". Я, грамадзяне, лічу лепш зарабляць сваю бедную, жорсткую студэнцкую стыпэндыю.

**94**

— Правядлова, — падхапілі студэнты. — Праўду кажа "айцец" Кірыла.

— А я не згодны, — зазначыў Малевіч. — Не так ужо страшны той кантроль, які намаляваў "айцец" Кірыла. Лепш, я думаю, апраўдывацца пацалункамі, чым дакументамі з пячаткай школьнай. Жанчына можа адкласьці на адзін год, а прафэсар экзамену не адкладзець. Што датыча маралі, дык, па-майму, у паступку Загорскага няма нічога амаральнага: ён бярэ ад яе грошы з самай добрай мэтай вучыцца на доктара і дапамагчы ей потым у жыцьці. Ён ня просе хлеба, а яму самі даюць. Цікава ведаць, калі-б "айцец" Кірыла быў галодны і яму прапанавалі-б такі "кавалак хлеба", як 600 крон, ці й тады ён ня ўзяў-бы яго. Знача, лепш было-б, — засьмяяўся Малевіч, — ісьці працаваць на стаўбы[1] й насіць цэглы на будынкі, пакуль не зьявілася-б кроў на далонях.

—Так, ня ўзяў-бы, — прамовіў сур'ёзна "айцец" Кірыла і насунуў капялюш на затылак. — Калі-б у мяне было-б здароўе і маладыя рукі, я лічыў-бы гэта ня чэсна. Чым спаць на пуховых пярынах у прыгожай віле, так лепш кроў на далонях, чым гэта праціўная пярына. Лепш чэсны чорны кавалак хлеба, чым нячэсны мільён.

— Ну й запраўды, грамадзяне: нядарма мы яго завём "айцец", — сказаў Малевіч сярод гуртка слухаўшых уважна спрэчкі студэнтаў. — Яго-б паслаць у вясковую царкву на Беларусь: добры

**95**

быў-бы поп. Але што такое чэснасьць, "айцец", што такое чэснасьць? Ты жа яшчэ марксыст, — акідываў Малевіч вокам пераможцы Кірыла.

— Чэснасьць быць самім сабой, сябра Малевіч. Ты мяне добра разумееш, — адказаў нахмурана Кірыла, забяраючыся йсьці.

— Чэснасьць...— Увайшоў у адказ Малевіч і зачасьціў размову. — Дык з боку чэснасьці атрыманьне намі стыпэндыі з камітэту ад чэскага народу, можа быць, таксама нячэсна. Што мы, скажыце, зрабілі для яго? Ды што мы... Вунь беларускія міністры атрымліваюць палітычную стыпэндыю, сядзяць у найлепшых чэскіх "кафэ", пьюць каву і гуляюць у шахматы... Гэта таксама, па-твайму, нячэсна?

— Нячэсна! — адказаў Кірыла.

— Ну, што і трэба даказаць, — засьмяяўся Малевіч сьмехам пераможцы, горда гледзячы на талпу. Але талпа не сьмяялася. Па яе сур'ёзных бліскучых паглядах відацца было, што яна больш стаіць на баку свайго любімага Кірылы. Кірыла нешта хацеў казаць, як у гэты момант падыйшоў Загорскі. Усе расступіліся, каб даць яму мейсца. Усе глядзелі на яго з цікавасьцей. Напудраны твар яго ад нейкага хваляваньня быў пакрыты прыгожым румянам.

— Вось ён, — засьмяяўся Малевіч, — краса і гордасьць "Беларускай Грамады ў Празе".

— Вітаем, вітаем, — сьмяяліся студэнты.

— З чым, грамадзяне? З чым? — усьмяхаўся Загорскі. — Гэта зусім ня варта ўвагі... Маё новае каханьне? Што ж тут такога?

— А старое каханьне як? — запытаў Кірыла.

— Старое каханьне? Вярхоўская, ты хочаш сказаць? Ну што, грамадзяне, вы разумееце, што

**96**

адной жанчыны мужчыну мала. Якое бы блюда смачнае ні было-б, а калі яго ўжываюць штодня, дык яно прыядаецца. Я вам раскажу, грамадзяне, адзін французскі анекдот. Жыў-быў на сьвеце кароль Людвік XV. Гісторыя кажа, што ён быў вельмі распусны.

— Як Загорскі, — засьмяяўся чырвоны і высокі Бурак. Студэнты засьмяяліся.

— Ну і з'асьліў... Ты нічога разумнейшага не прыдумаў, — пахмурна прамовіў Загорскі, прадоўжываў: — Доўгі час, кажуць, ня жыў з сваей жонкай. У адным з гарадоў Францыі жыў вельмі набожны абат. Ён быў настолькі красамоўны, што да яго зьяжджалася шмат народу з усіх кутоў Францыі. У сваіх казаньнях з амбону гэты абат нападаў на распуснасьць караля. Кароль змагаўся з ім усялякімі засадамі, але нічога не дапамагала. Бачачы, што ён бяссільны проціў абата, кароль рашыў запрасіць абата да сябе ў госьці. Абата прынялі з каралеўскімі пашанамі і пачаставалі такім смачным абедам з падсмажаных курапатак, што абат толькі аблізваў пальцы. Ён згадзіўся на радасьцях прабыць у караля цэлы тыдзень. На другі дзень абату зноў падалі курапатак. Абат таксама быў задаволёны. На трэці дзень зноў былі курапаткі. Абат ужо пачаў дзівіцца, паглядывацца. На чацьвёрты дзень зноў курапаткі. На пяты і шосты зноў тое самае... Зьдзіўлены абат ужо ня мог выцерпець. Ён рашыў пайсьці да самога караля і запытаць — што гэта ўсё знача.

Працяг.
Пачатак у №№ 23 — 33.

[1] На стаўбы — на будоўлі.

# БЕЛАРУСКАЯ ЭМІГРАЦЫЯ Ў АМЕРЫЦЫ

**Выступленне Вітаўта КІПЕЛЯ, дырэктара Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку, на Міжнародным кангрэсе беларусістаў у Мінску**

У 1992 ГОДЗЕ ў Злучаных Штатах Амерыкі пачынаецца адзначэнне 500-годдзя адкрыцця Амерыкі Калумбам у 1492 годзе. Адзначэнне юбілею будзе працягвацца даўжэйшы час, у ім будуць браць удзел і беларускія арганізацыі, як шырока ўдзельнічалі гэтыя арганізацыі і ў адзначэнні 200-годдзя Амерыкі ў 1966 годзе. Праўда, мы пакуль што не маем звестак, ці былі ў часы Калумбавых адкрыццяў на караблях нашы людзі — нашы беларусы, хоць з матросамі ў нас справа абстаіць вельмі добра: нашых было шмат дзе. Як пішуць даведнікі, сярод першапраходцаў на Алясцы былі беларускія сяляне, таму не выключана магчымасць, што маглі быць жыхары Вялікага княства Літоўскага і сярод матросаў Калумба. Аднак беларускі ўдзел у адзначэнні Калумбавага юбілею не будзе выпадковы, як гэта падалося на першы момант.

Трэба зрабіць экскурс у гісторыю беларускай эміграцыі. Эміграцыя з Беларусі ішла хвалямі, хоць гэта быў сталы працэс. Мы ўважаем, што было тры большыя хвалі эміграцыі. Гэта хваля індывідуальных эмігрантаў і малых групаў ад канца XVII да канца XIX стагоддзяў. Хваля масавай эміграцыі ад канца XIX стагоддзя і да канца 1945 года. І трэцяя хваля — па другой сусветнай вайне. Апошнім часам былі выказаны погляды, што было сем хваляў эміграцыі. Спадар Аўген Калубовіч у сваім артыкуле прапанаваў яшчэ больш. Гэта прэрагатыва кожнага даследчыка — бачыць, колькі было хваляў эміграцыі.

Відавочна, што вывучэнне беларускай эміграцыі павінна пачынацца ад такога пытання: а калі Беларусь даведалася пра Амерыку? Вось жа тут дакументацыя вельмі выразная. Пра Амерыку Беларусь даведалася з хронікі Бельскага ў 1554 годзе, калі гэта хроніка была перакладзена на беларускую мову. З беларускамоўнай хронікі Бельскага інфармацыя пра Амерыку пайшла ў Маскву, і хроніка Бельскага была перакладзена на расейскую мову ў 1581 годзе.

Лагічнае пытанне другое: а калі Амерыка даведалася пра Беларусь? Калі паняцце Беларусі, беларускага народа, беларускага этнасу прыйшло ў Амерыку? І тут мы маем вельмі і вельмі дакладную вестку. Пра Беларусь Амерыка даведалася ў 1607 годзе. Прынёс вестку пра Беларусь не хто іншы, як сам капітан Джон Сміт, першы губернатар сталай ангельскай калоніі ў Амерыцы. Бо ўсяго толькі чатыры гады перад 1607 годам капітан Сміт, ваяка Сміт быў на Беларусі. Гэта вядома з ягонай кніжкі, якую ён выдаў у Лондане ў 1630 годзе, яна называецца "Сапраўдныя падарожжы". У кнізе ён піша: "Нарэшце я дабраўся да Літвы, да горада Рэчыца на рацэ Днепр". У беларускім замежным друку пра капітана Сміта напісана шмат і пра быццё капітана Сміта ў Рэчыцы таксама.

Капітан Сміт быў ангельскі ваяка, які ваяваў з туркамі, трапіў у палон, уцякаў з палону праз Азоўскае мора, Данец, Дон і прыйшоў на Беларусь. У Беларусі пабыў у Рэчыцы, пагуляў, бо дэталёва апісаны яго побыт, ягоныя гулянкі, гэтаксама яго знаёмствы з беларускай шляхтаю. Праз Еўропу ён вярнуўся ў Ангельшчыну і стаў першым губернатарам амерыканскай калоніі.

Калі капітан Сміт прыехаў у Амерыку і пачаў там арганізоўваць жыццё, яму спатрэбіліся спецыялісты па вырабу смалы і шкла. У сваіх успамінах Сміт пісаў, што набраў ён гэтых спецыялістаў у Польшчы і іншых усходніх землях. Відавочна, што палякі інтэрпрэтавалі ў першую чаргу Польшчу, а іншыя ўсходнія землі імі ігнараваліся.

Аналізуючы прозвішчы людзей, якіх прывёз Сміт у Вірджынію як спецыялістаў па вырабу смалы, можна смела сцвярджаць, што сярод гэтых людзей, бясспрэчна, былі і беларускія спецыялісты, таксама, як і з Украіны, з Валыні.

Гэткім парадкам, Амерыка даведалася пра Беларусь ужо ў XVII стагоддзі. Будучыя архіўныя пошукі, безумоўна, дадуць больш дакументальных даных.

* * *

Большымі групамі пачалі эміграваць у Амерыку ліцвіны, беларусы ў XVIII—XIX стагоддзях, гэта былі ўцекачы, людзі, якія не прымірыліся з тым, што нашы землі пападалі пад расейскую, маскоўскую акупацыю. Больш пачало прыязджаць беларусаў, бясспрэчна, у першай чвэрці XIX стагоддзя.

Першымі з масавай эміграцыі, калі можна так сказаць пра групы ў 20—30 чалавек, былі ў Амерыцы каталіцкія ксяндзы з Полаччыны. Як вы ведаеце, калі на прыканцы XVIII стагоддзя папа Рымскі забараніў езуіцкі ордэн, то гэты ордэн існаваў і далей у Беларусі. Расея ніколі не прымірылася з папскім указам, і езуіцкі ордэн легальна існаваў надалей. Амерыканскія езуіты, не жадаючы аддаць свае землі, сваю маёмасць каталіцкай царкве, далучыліся да езуіцкага ордэна, што існаваў на Беларусі, і назваліся "Беларуская правінцыя". Гэткім парадкам, у пачатку XIX стагоддзя ў Амерыцы была "Беларуская правінцыя" езуіцкага ордэна.

У гэты час у Амерыку прыехала з Полацка вельмі шмат ксяндзоў. Адзін з іх асабліва быў выдатны — Францішак Дзеружынскі. Ён народжаны ў Оршы, вучыў у шматлікіх школах Аршаншчыны, Магілёўшчыны і вырашыў выехаць у Амерыку. Тут Дзеружынскі вызначыўся надзвычайна: ён запачаткаваў адукацыйную сістэму каталіцкае царквы, каталіцкае школы ў Амерыцы. Пра айца Дзеружынскага існуе вялікая літаратура. На Дзеружынскага прэтэндуюць палякі: здаўна існуе нічым не абгрунтаваная думка, што як каталік — значыць, паляк. Палякі надрукавалі вельмі шмат літаратуры аб Дзеружынскім. Калі я пачаў знаёміцца з гэтай літаратурай, мне давялося таксама зведаць шмат езуіцкіх архіваў у Амерыцы. Айцец Францішак Дзеружынскі, несумненна, беларускага паходжання. Архіўныя даныя паказваюць, што яму пісаліся лісты ягоных вярхоўных уладаў: як ён мог дапусціць, такі выдатны езуіцкі філосаф, што ягоныя сёстры павыходзілі замуж за схізматыкаў. Гэта натура беларуская. У Рыме ў 60-х гадах выйшла вялікая праца Тадэвуша Ружыцкага пра Ф. Дзеружынскага, дзе сказана: цікава, такі вялікі розум, такая вялікая галава і ва ўсіх яго філасофскіх і нефіласофскіх творах няма ніводнага роздуму наконт Польшчы?! Бясспрэчная рэч, што Дзеружынскі мала цікавіўся Польшчай, бо ён быў беларус. Пра яго на эміграцыі выходзіць кніга "Залічаем да беларусаў".

XIX стагоддзе гэтаксама мае іншыя цікавыя моманты: у Амерыцы паўставалі сельскагаспадарчыя калоніі, кіраўнікоў гэтых калоній было шмат з Беларусі. У іх была вельмі блізкая лучнасць з Горы-Горкамі ў перапісцы аднаго з такіх пачынальнікаў гэтых калоній Фрэя. Фрэй перапісваўся са шмат якімі дзеячамі ў Вільні, у Віцебску і ў Магілёве. Шмат хто пад яго ўплывам паехаў у Амерыку. XIX стагоддзе дае нам таксама Судзілоўскага, які быў у Амерыцы, і многіх іншых.

Другая эміграцыя — гэта масавая эміграцыя сялян, на яе трэба звярнуць вельмі дэталёвую ўвагу і на Бацькаўшчыне. Як яна пачыналася? Яна ішла з Сувалкаў, затым ехалі з Віленшчыны, Гродзеншчыны, Меншчыны, Магілёўшчыны. У нас ёсць статыстыка, адкуль эміграцыя пачалася і як яна пашыралася. Даследаванні на Бацькаўшчыне прасочаць гэта далей.

Эміграцыя першага пасляваеннага перыяду была дзвюх маленькіх хваляў: эміграцыя людзей БНР, грамадоўцаў і індывідуальных людзей. Гэта былі пераважна людзі з асветай, шмат з іх было нацыянальна свядомых беларусаў. Пасляваенная эміграцыя пачала вывучаць беларускую эміграцыю, рэпрэзэнтаваць Беларусь, куды яна не даходзіла, пачала закладаць свае асяродкі, таму што яна мела сацыяльныя магчымасці. Гэта былі людзі вельмі шырокага дыяпазону.

* * *

Колькі слоў аб лічбе эміграцыі. Дакладных лічбаў эміграцыі няма. Падлікаў беларускай эміграцыі ніколі не праводзілася ні на адным баку акіяна, ні на другім. На гэтым баку акіяна не ўлічалася колькасць эмігрантаў дзеля таго, што ў Расіі панавала думка, прынцып: истинно русские люди не выезжают. А інародцы хай сабе яе пакідаюць. Хоць беларусы, кажуць, не інародцы, але тым не меней статыстыка не вялася. Даследчык эміграцыі Фокін у 1804 годзе сказаў: каб мець дакладныя лічбы эміграцыі з Расіі, трэба звяртацца да амерыканскіх крыніц. Але ні лічбы расейскія, ні лічбы амерыканскія нам не дадуць колькасці эміграцыі, дзеля таго што нацыянальная рубрыка не існавала ў расейскай статыстыцы, а існавала веравызнанне каталіцкае і праваслаўнае. І па гэтаму вызначалася, колькі было беларусаў, а колькі палякаў.

На амерыканскім баку статыстыка вялася па дзяржаўнай прыналежнасці. Гэткім парадкам, мы бачым, як дзве бюракратыі зусім з іншых поглядаў элімінавалі цэлы народ. Тым не меней, шэраг даследчыкаў выказвалі пэўныя погляды адносна нашай эміграцыі. На амерыканскім баку гэта Дэвіс, на баку расейскім Адасінскі, які быў першым дырэктарам статыстычнага бюро. Ён даў спецыфічную формулу, паводле якой можна вывесці колькасць эмігрантаў з Беларусі. Паводле гэтай формулы было іх каля 250 тысяч. Акадэмік Шчарбакоў з Менску сказаў, што выехалі каля 800 тысяч, Уласаў у "Нашай ніве" аблічыў лічбу эмігрантаў да мільёна. Працэс эміграцыйны не быў закончаны: людзі прыязджалі зарабіць грошы, паехаць назад і мець сваю зямлю. Гэта была пераважна сялянская эміграцыя...

Пасляваенная беларуская эміграцыя намі аблічана каля 50 тысяч. Такую лічбу мы падаём у працы, якая цяпер друкуецца.

* * *

Дзейнасць эміграцыі. Масавая эміграцыя стварыла па-над 30 беларускіх арганізацый. Гэтыя арганізацыі існавалі ад пачатку 20-х гадоў. Нацыянальная эміграцыя мела свае дзесяткі арганізацый ад 20-х гадоў, якія прадаўжаюць і дасюль дзейнічаць. І эміграцыя паваенная, бясспрэчна, дала дзесяткі арганізацый. Мэтай паваеннай арганізацыі было паставіць Беларусь на карту палітычна, а таксама адрадзіць тыя згубленыя масы, якія прыязджалі пад чужой назвай.

Першыя беларускія арганізацыі былі закладзены ў 1908 годзе. Пачаў гэтыя гурткі Аляксандр Сянкевіч. Ён паходзіць з Мікалаеўшчыны, выведзены шмат у якіх творах Я. Коласа, быў першым сакратаром Саюза беларускіх настаўнікаў. Пра яго ёсць паведамленне ў "Нашай ніве". Яго хацелі арыштаваць, але ён уцёк у Амерыку ў 1907 годзе. На жаль, Аляксандр Сянкевіч і яго жонка Марыя ўлучыліся ў анархісцкі рух і былі згублены для беларускай справы, але вельмі шмат зрабілі. На жаль, Сянкевіч паехаў назад, уступіў у атрады С. Лазо, якія бандытавалі на Далёкім Усходзе, потым ён прыехаў у Беларусь, і Беларусь яго знішчыла. А ён меў матэрыялы па гісторыі беларускай эміграцыі. Дзе ягоныя архівы, гэта вам даследаваць.

Арганізацыі масавыя пачалі закладацца пасля 1918 года. Першыя арганізацыі паўсталі з ініцыятывы БНР. Захарка, Крэчэўскі выслалі сваіх людзей. Гэта быў Чаранух, Варонка, іншыя дзеячы. Яны пачалі закладаць арганізацыі. За імі пачалі закладаць арганізацыі грамадоўцы. Яны дасягнулі найбольшай масавасці. Было болей за 28 арганізацый, якія далі некалькі мільёнаў долараў на Бацькаўшчыну, у дапамогу Грамадзе. Гэтыя арганізацыі вельмі шмат зрабілі для сувязі Беларусі з дыяспарай.

"Бюлетэнь Беларускага Чырвонага Крыжа" друкаваў абвесткі ў кожным нумары, шукаючы сваякоў, загінуўшых у Амерыцы, дзеля таго, што амерыканскія страхавыя кампаніі мелі вялікія грошы, і гэтыя грошы магла мець Беларусь. Цвікевіч, які ўзначальваў Чырвоны Крыж, меў вялікія планы. Цвікевіча расстралялі, гэта ўсё загінула. Апрача гэтых дакументальных даных, якія, я не думаю, што ёсць сёння ў Менску, пазгінулі дакументы, дзе шукаліся нашчадкі.

Левыя беларускія арганізацыі куплялі першыя трактары для Беларусі. Яны дапамагалі беларускім школам, і гэтыя левыя арганізацыі зрабілі вялікую памылку, што паслухалі беларусаў Савецкай Беларусі. Іх разлажылі, гэтыя арганізацыі з беларускіх пачалі станавіцца савецкімі, потым з савецкіх пераймянаваліся ў рускія. Іх ужо нямала. Але гэта прадукт савецкай сістэмы: рабленне з нашай беларускай эміграцыі савецкай, а потым рускай. Руская эміграцыя за межамі — яе няма. Некалькі людзей, якія выехалі пасля першай сусветнай вайны, і гэта ўсё.

Вашыя інстытуты, якія збіраюцца вывучаць так званую рускую эміграцыю, павінны ведаць, што рускіх на эміграцыі няма. Гэта ёсць нашы людзі. Так што калі мы будзем шукаць сярод гэтай масы рускіх, то мы не будзем рабіць дабра Беларусі.

А арганізацый левых было каля 30. Арганізацый нацыянальных было крыху меней. Але затое яны пратрымаліся аж да сягоння. Эміграцыя пасляваенная дала дзесяткі арганізацый. Мэта была такая: адрадзіць нашу спадчыну ў Амерыцы, што была пад чужым імем — польскім і рускім, паставіць Беларусь сёння на карту ў Амерыцы, давесці свету, што такое Беларусь, і заснаваць сваё жыццё, — пабудаваць цэрквы, выхаваць дзяцей у беларускіх школах, наладзіць навуковую базу эміграцыі. Былі створаны дзесяткі арганізацый, цэркваў, школаў, танцавальных гурткоў і гэтак далей. Некаторыя існавалі кароткі век, іншыя дзейнічаюць і цяпер. Найбольшыя арганізацыі — БАЗА, Беларускі кангрэсавы камітэт, Арганізацыя беларускай моладзі і іншыя арганізацыі, друк. Улікам друку займаецца БІНІМ.

У нас цяперака знаходзіцца на варштаце 2 тамы "Беларускі перыядычны друк 1919—1989". 70 гадоў беларускага друку. Там будзе каля 2 тысяч пазіцыяў. Другі том — гэта "Беларускі эмігранцкі друк". Манаграфія. У кожным з гэтых тамоў ёсць пэўная перыядычнасць: 1919—1939 гады, 1939—1945, 1945 год да сёння. БІНІМ распачаў новую серыю: бібліяграфічная праца пра Беларусь. Найбольшая наша картатэка — што пісалася пра Беларусь у англамоўным друку. Яна налічвае 15 тысяч пазіцыяў. Пра Беларусь у англамоўным друку пачалі пісаць ад 1854 года. Тады быў змешчаны артыкул, у якім пісалася: "Такога фальклору, такой прыгажосці, як беларусы, не мае ніхто ў свеце". З 1860 года з'явілася некалькі інфармацыйных артыкулаў пра Беларусь. Другая серыя нашых выданняў — беларускія пісьменнікі на эміграцыі, з якой вы больш знаёмыя. Гэта Арсеньева, Крушына, Кавыль, Юхнавец і г. д. І трэцяя серыя — гэта англамоўны друк пра Беларусь.

Грамадская арганізацыя — БАЗА мае на мэце галоўнае: залучыць у беларускі рух маладое пакаленне, якое чуецца беларускім.

І трэцяя найбольшая галіна — гэта царкоўная. У царкоўным жыцці беларуская эміграцыя стаіць бескампрамісова і зрабіла вельмі шмат у беларусізацыі існуючых большых канфесіяў — каталіцкай царквы і царквы праваслаўнай. Беларуская аўтакефальная царква выдала некалькі выданняў, каталіцкая царква рабіла пераклады. Гэта тры аспекты, якімі сёння беларуская эміграцыя жыве. Бясспрэчна, кожны з гэтых аспектаў мае адценне палітычнае.

Як даць звесткі пра Беларусь амерыканскім суайчыннікам? У "Кангрэсавых запісах" беларусы пачалі з'яўляцца ад 1927 года. Была вестка, што ў Беларусі будзе раскулачванне. У Беларусі могуць пачацца пэўныя палітычныя непаладкі. У 1920-х гадах у Амерыцы пра гэта пісалася. Пачынаючы ад 40-х гадоў, беларуская эміграцыя асвятляе стан, які ёсць у Беларусі.

Калі здарылася чарнобыльская катастрофа, беларускія арганізацыі ў Амерыцы — і вялікія, і маленькія — выслалі сотні мемарандумаў аб гэтай праблеме, якая з самага пачатку была зманапалізавана ўкраінцамі. Мы стараліся паказаць, што для Беларусі гэта страшэнная катастрофа. Майце на ўвазе, усё, што адбываецца на Беларусі, вельмі блізкае эміграцыі: першаму, другому, трэцяму і іншым пакаленням.

Эміграцыя марыць аб тым, каб быць блізка з краем, каб мець гэтую сувязь. Зноў сфарміраваная арганізацыя беларусістаў — гэта першы крок да таго, каб эміграцыя не была выкінута з краю. Цывілізаваныя народы — італьянцы, немцы, швейцарцы — выдаюць падручнікі для сваёй эміграцыі, для дзяцей, якія вучацца на эміграцыі, а наш край не толькі не рабіў гэта, а бэсціў, стараўся адарваць нас ад Бацькаўшчыны. Беларуса, якім з'яўляюся я, ня можна адарваць ад Бацькаўшчыны, што б на Бацькаўшчыне ні рабілася — я гэтым застануся!

Дзеля таго, калі Бацькаўшчына выказала першы раз зацікаўленне, гэта эміграцыя будзе дзеіць, працаваць і пад тым лозунгам, што мы маем сувязь, і гэта будзе карысна для цэлай беларускай нацыі.

# ТАКІ ІМКЛІВЫ ЎЗЛЁТ... ШТО ЗА ІМ?

Алесь Дранец — скульптар. Яму 29 год. У яго ўважлівыя, дапытлівыя вочы і рукі мастака. Калі глядзіш на іх, успамінаюцца словы аб тым, што рукою мастака кіруе Бог. Рукі Алеся здаюцца даволі моцнымі і далікатнымі ў той жа момант. Зрабілі яны ўжо нямала за невялікае творчае жыццё. Галоўнае ж, на што былі натхнёны яны, — гэта работа над вобразам Францыска Скарыны. Алесь перамог на конкурсе помнікаў першадрукару, і пра яго пачулі, загаварылі на Беларусі.

Перамога гэтая здзівіла многіх: занадта ж малады мастак, вельмі нечаканы талент. А ў конкурсе ж удзельнічалі мастакі з вядомымі імёнамі, за плячыма ў якіх шмат і конкурсаў, і сур'ёзных перамог. Акрамя ўсяго, ён наогул прахадзіў нялёгка — у некалькі тураў, бо не маглі ніяк знайсці пераможцу. Усё гэта вызначыла маю цікавасць да мастака. Хацелася зразумець, чаму перамог менавіта яго праект.

Францыск Скарына Алеся Дранца — такі, якім уяўляе яго, мусіць, большасць з нас. Простая постаць, а ў ёй — веліч, сіла таленту, розум філосафа. Гэта сапраўды постаць генія, які быў і мастаком, і вучоным, і ўрачом. Скарына нібы выхапляны з свайго часу, перанесены адтуль да нас. Ён працягвае рукі да людзей, у іх — кніга. Кніга, у якой, здаецца, глыбінны духоўны свет яго асобы. Ва ўсім абліччы — вялікае жаданне дапамагчы і навучыць гэты свет жыць мудра. У Алеся Францыск Скарына — не проста славуты першадрукар, ён у-першую чаргу — чалавек. Звычайныя тонкія рысы, поўныя натхнення.

У канцы мінулага года Уладзімір Пракопцаў у часопісе "Мастацтва Беларусі" пісаў пра сваё жаданне, каб помнік Скарыне быў сумаштабны чалавеку і творам высокага мастацтва. Думаю, што жаданне яго збылося (ва ўсякім разе, калі гаварыць пра праект).

Алесь працаваў над помнікам па заказу на конкурс. Але мастак упэўнены, што фігура асветніка ў яго творчасці з'явілася б і без конкурсу: цікавіўся асобай Скарыны даўно. Яна хвалявала яго сілай таленту, маштабнасцю.

Вельмі дапамагла Алесю ўявіць усю значнасць дзейнасці Францыска Скарыны паездка па мясцінах жыцця першадрукара. Як гаварыў Алесь, была яна вельмі карыснай для яго: "Чалавеку, мастаку, які не быў ніколі за мяжой, убачыць адразу ўсю веліч архітэктуры, скульптуры Прагі, Кракава... — цяжка пераацаніць гэта".

Пытаюся ў Алеся:

— Чаму вас цікавіць менавіта гістарычная тэма?

— Мне падабаецца паглыбляцца ў гісторыю. Гэта зразумела: хто ж мы будзем, калі не ведаць каранёў сваіх? А цяга да яе — яшчэ з юнацтва. Я вучыўся ў школе-інтэрнаце імя Ахрэмчыка. Было там вельмі своеасаблівае асяроддзе, якое займала гісторыя, гісторыя мастацтва. Гэты напрамак на ўсё жыццё зацвердзіў інстытут (Алесь скончыў Мастацкі інстытут у 1987 годзе).

Акрамя скульптур Францыска Скарыны, у майстэрні Алеся — бюсты Алаізы Пашкевіч (яго дыпломная работа). Жанчына, якая ўсё жыццё сваё шукала праўду, якая прагла свабоды і справядлівасці, спадзявалася на нас, беларусаў: "Веру, браты, у нашу сілу, веру ў волі нашай гарт".

У Алеся Дранца Цётка, па-першае, прыгожая. І яшчэ, як мне здаецца, у твары яе — ледзь прыкметная барацьба суровасці, адпаведнай яе жыццю і часу, і жаночай няспыннай пяшчоты. Відавочна, што гэты вобраз — вынік доўгага роздуму, працы душы, у ім адчуваецца няпросты лёс паэтэсы.

Ёсць у Алеся статуя Дуніна-Марцінкевіча, вялікага прапагандыста беларускай мовы, вядомага пісьменніка і асветніка.

Адну асобу сярод работ у майстэрні Алеся я, да свайго сораму, не пазнала. Ён жа адразу выдаў кароткую інфармацыю. Леў Сапега, канцлер літоўскі, што рэдагаваў Статут княства 1588 года. Барэльеф магната мастак зрабіў для музея гісторыі рэлігіі ў Гродне.

— Ці выпадковыя ў вашай творчасці гэтыя асобы?

— У мастака нічога не павінна быць выпадковага. Да кожнай работы рыхтуешся шмат — думаеш, чытаеш. Трэба добра ведаць тое, што робіш.

Добра ўяўляю сабе ўсю надзвычай цяжкую і цікавую працу, калі ўзнімаешся да такой вышыні, што здольны перамяшчацца з аднаго часу ў другі. Гэта няпроста — заставацца ў тым, іншым часе, жыць ім і людзьмі, над вобразамі якіх працуеш... Мусіць, каб здолець зрабіць гэта, і патрэбны Алесю кнігі — энцыклапедычнае выданне мінулага года "Францыск Скарына", "Гравюры Францыска Скарыны", што ляжаць на яго стале.

— У вас атрымаўся класічны вобраз Францыска Скарыны...

— Так. Я працаваў у гэтай галіне мэтанакіравана, каб скульптура была традыцыйнай у пластычных сродках. Таму некалькі прычын. Па-першае, як цяпер вырашылі, стаяць яна будзе ў двары Акадэміі навук БССР, што само па сабе дыктуе пэўны настрой. Потым, я лічу, што Францыск Скарына — не тая фігура, над якой можна эксперыментаваць. Пошукі трэба праводзіць на чым-небудзь больш лёгкім. Апошняе — нашы людзі не зразумеюць у большасці сваёй нешта асабліва авангарднае.

— Вы лічыце, што мы не падрыхтаваны да гэтага, не дараслі?

— Справа не ў тым, што не дараслі, а ў тым, што многа згубілі. Новыя стылі, што актуальныя для Еўропы, зусім не абавязкова актуальныя для Беларусі. Калі ходзіш па Празе, дзе на кожным метры — цудоўная архітэктура, скульптура, дзе ўсюды ўсё аздоблена цяплом рук людскіх, успамінаецца Беларусь і робіцца цяжка на сэрцы. Там людзі з дзяцінства выхоўваюцца ў асяроддзі мастацтва. А што робіцца ў нас?

Я магла даць толькі сумны адказ на гэтае пытанне. Мы бачым зруйнаваныя ці апаганеныя храмы, помнікі некаму за нешта на святых месцах, у цэрквах — склады збожжа. І ўсё ж такі: нам зусім адварнуцца ад Еўропы?

— Трэба бачыць, дзе знаходзіцца мастацтва там і на якім месцы яно ў нас. У адным толькі Кракаве — больш ста касцёлаў. Чалавек там не можа не заўважаць мастацтва. У нас жа яно само па сабе, а чалавек — сам па сабе. Што зробіш, калі нас клапоцяць іншыя рэчы... Мастацтва мае сэнс, калі адкрывае нешта новае. А як гэта рабіць, калі не ведаем старога, калі столькі год адхрышчваліся ад мінулага?

— Але ж рабіць нешта патрэбна?

— Зразумела. Мы павінны аднаўляць тое, што ў свой час было амаль вынішчана. Нам, мастакам, трэба звяртацца да класікі, развіваць гістарычную тэму. Людзі ж не ведаюць ні сваёй гісторыі, ні культуры. Мастацтва не мае развіцця. Ніхто не займаецца народнымі рамёствамі. На сяле не спяваюць. Увечар ідзеш па вёсцы — як на могілках. У народзе павінна жыць цяга да мастацтва. Гэта ж было раней. І вышывалі, і вычэсвалі скульптуры з дрэва не па прымусу, а па душэўнай патрэбнасці. Гэта самае здаровае мастацтва, на мой погляд.

Слухала Алеся і, нягледзячы на тое, што размова адбывалася ў нас даволі сумная, радавалася, што ёсць на гэтым свеце людзі з дарам ад Бога, людзі, якім зусім неабыякава, хто мы, куды і адкуль ідзём.

Майстэрня Алеся служыць яму і жытлом, і я бачыла яго кнігі. Шмат мастацкіх альбомаў, працы Н. Бярдзяева, збор твораў Ф. Дастаеўскага, "Гісторыя хрысціянскай царквы"... Алесь лічыць хрысціянства такой высокай культурай, якая можа і павінна быць для нас крыніцай духоўнасці, пошуку маральнай чысціні. Чалавек створаны так, што яму неабходна ў нешта верыць. А хрысціянства — гэта ўсё жыццё наша, побыт, святы. Калі рабілі спробу ў чалавека забраць гэтую веру, ён шукаў і, на жаль, знаходзіў сабе іншых Багоў, шмат з якіх потым аказаліся д'ябламі. Мы бачылі гэта ў гісторыі нашай краіны.

Зараз Алесь Дранец працуе над памятнай дошкай Францыску Скарыне. Будзе яна размешчана ў Празе на будынку бібліятэкі Клімянціна.

За мяжой вялікага першадрукара шануюць. Паважаюць і ў нас на Радзіме. Але ж пасля конкурсу прайшло амаль паўгода. А ў Міністэрстве культуры па-ранейшаму — праблема фінансавання працы над помнікам. І ніхто не ведае, калі ён будзе стаяць у сталіцы. Канешне, і Алесю, і ўсім нам хочацца, каб было гэта хутчэй.

Алесь разумее, што не яго справа займацца арганізацыйнай работай. Ён хоча працаваць на сваім месцы, а не хадзіць, патрабаваць. Было б гэта цудоўна, калі б магло быць. Але ж я глядзела на яго працы, слухала яго і ўсё думала пра свет наш, дзе мастак ніколі не адчуваў сябе ўпэўнена. Рэдка адразу знаходзілі прызнанне сапраўдныя творцы. Да сваёй вышыні яны ішлі доўгімі гадамі. А ў Алеся — толькі пачатак творчага жыцця, усё яшчэ магчыма, ды ёсць ужо відавочны ўзлёт. Яму спатрэбіцца многа сіл, каб выжыць у гэтым грамадстве, дзе сёння такім важным з'явілася матэрыяльнае і дзе ёсць пагроза забыцца на духоўнае. Вельмі хочацца, каб Алесь утрымаўся на сваёй вышыні, каб яна была для яго не апошняй. Хай ён знойдзе ў сабе сілы застацца ў гэтым жыцці Майстрам назаўсёды.

Алена СПАСЮК.

*НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ*

# ЗОРКА ЯГО ШЧАСЦЯ



Гаўрыла Ціхаў — выдатны савецкі вучоны-астраном, даследчык многіх складаных пытанняў па астраметрыі, спектрафотаметрыі, астрабатаніцы. Ён не толькі таленавіты даследчык, але і ўмелы арганізатар навукі, здольны выкладчык. Прадметам яго даследаванняў былі пытанні ўнутранай будовы нябесных цел, іх фізічных якасцей, хімічны склад зорных і планетных атмасфер, міжзорных і міжпланетных асяроддзяў, а таксама праблемы існавання жыцця на іншых планетах, іншапланетных цывілізацый. У гэтым напрамку навуковай дзейнасці ён знайшоў сваю зорку шчасця, стаўшы сусветна вядомым вучоным.

Нарадзіўся Гаўрыла Адрыянавіч у ціхім і ўтульным беларускім мястэчку Смалявічы былой Мінскай губерні 1 мая 1875 года ў сям'і начальніка чыгуначнай станцыі.

Бацька Г. Ціхава Адрыян Гаўрылавіч паходзіў з Пецярбурга. Дзякуючы сваяцкім сувязям часта бываў у Смалявічах у цесця, куды нарэшце пераехаў на працу. Дзед Г. Ціхава па маці Гаўрыла Зубковіч скончыў духоўную семінарыю і меў духоўны сан святара ў Смалявічах. Ён быў таленавітым мастаком, вучыўся ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, але скончыць яе не змог з-за недахопу сродкаў. Некалькі альбомаў з яго працамі — цудоўна выкананымі партрэтамі родных і відамі ваколіц Смалявіч яшчэ і цяпер захоўваюцца ў архіве Ленінградскага аддзялення Акадэміі навук СССР.

Усё гэта вызначыла ўклад сям'і, у якой разам з рэлігійнымі веяннямі вялікае значэнне ў выхаванні дзяцей надавалася навуцы і мастацтву. Вялікую ролю ў выхаванні Гаўрылы адыграла яго маці Ганна Гаўрылаўна. Бацька Адрыян Гаўрылавіч займаўся з ім арыфметыкай. Яго служба на чыгунцы вымушала сям'ю часта пераязджаць з аднаго месца на другое. К моманту паступлення хлопчыка ў гімназію Ціхавы жылі на маленькай станцыі Зайцава-Лозава Севастопальскай чыгункі. Менавіта тут памочнік Адрыяна Гаўрылавіча — адстаўны афіцэр Ланге займаўся з яго сынам і дачкой Марусяй, рыхтуючы іх у першы клас гімназіі. У той час для паступлення ў гімназію неабходна было мець добрую падрыхтоўку па шэрагу прадметаў.

У маленькім гарадку Зайцава не было гімназіі, і маці разам з сынам Гаўрылам і дачкой пераехалі ў горад Паўлаград Кацярынаслаўскай губерні (цяпер Днепрапятроўская вобласць).

Кемлівы хлопчык ужо з дзяцінства вызначаўся шырокім дыяпазонам ведаў. У дзесяць гадоў ён паступіў вучыцца ў 6-класную гімназію. Ён і яго сястра вучыліся паспяхова, а на канікулы ездзілі адпачываць да дзядулі ў Смалявічы. Пад уплывам Гаўрылы Зубковіча ўнук у раннім дзяцінстве быў вельмі набожным. Унаследаваў ён ад дзядулі і здольнасці да малявання з натуры, што ў далейшым вельмі дапамагала Гаўрылу Адрыянавічу ў навуковых працах пры праектаванні астранамічных прыбораў, а таксама для падрыхтоўкі ілюстрацый да сваіх навуковых выданняў.

Закончыўшы Паўлаградскую гімназію, ён паступіў у 7-мы клас Сімферопальскай гімназіі і скончыў яе ў 1893 годзе з залатым медалём. У тым жа годзе ён паступае на матэматычнае аддзяленне фізіка-матэматычнага факультэта Маскоўскага універсітэта, які скончыў у 1897 годзе з дыпломам першай ступені. Ва універсітэце ён выбраў сваёй спецыяльнасцю астраномію. Слухаў лекцыі выдатнага фізіка А. Сталетава, астранома Вітольда Цэрскага, які і прывіў яму любоў да астранамічнай навукі. Будучы студэнтам універсітэта, Г. Ціхаў на летнія канікулы прыязджаў у Смалявічы, дзе пабудаваў у 1894 годзе сваю хатнюю абсерваторыю, якая была абсталявана метэаралагічнымі прыборамі, падзорнай трубой, праз якую назіраў нябесныя з'явы.

Праз год пасля заканчэння універсітэта, у 1898 годзе, у Маскве Г. Ціхаў бярэ шлюб з Людмілай Паповай — дзяўчынай з вельмі заможнай сям'і. У 1898—1900 гадах Гаўрыла Адрыянавіч слухаў лекцыі на фізіка-матэматычным факультэце Парыжскага універсітэта і адначасова працаваў у якасці практыканта ў астрафізічнай абсерваторыі ў горадзе Медоне, што паблізу Парыжа, а жонка вучылася ў Цюрыху, у Швейцарыі.

У 1902 годзе Ціхаў здаў экзамены на ступень магістра астраноміі пры Маскоўскім універсітэце і ў тым жа годзе пачаў працаваць выкладчыкам матэматыкі ў Маскоўскай 6-й мужчынскай гімназіі. У 1903 годзе ён быў выбраны на пасаду штатнага выкладчыка вышэйшай матэматыкі Кацярынаслаўскага вышэйшага горнага вучылішча. У 1904 годзе перайшоў працаваць у якасці астранома ў Пулкаўскую абсерваторыю пад Ленінградам. У 1913 годзе пры Санкт-Пецярбургскім універсітэце ён абараніў дысертацыю на ступень магістра астраноміі. У 1919—1931 гадах адначасова выкладаў астрафізіку ў Ленінградскім універсітэце і загадваў астрафізічным аддзелам навукова-даследчага інстытута імя Лесгафта ў Ленінградзе. У 1927 годзе ён быў выбраны членам-карэспандэнтам Акадэміі навук СССР. У 1934-м яму прысуджана вучоная ступень доктара фізіка-матэматычных навук за навуковыя пра-

(Заканчэнне на 8-й стар.).

НАША СПАДЧЫНА



# УБРАННЕ ДЛЯ КРЫВІЧАНКІ

З мясцовага насельніцтва мала хто помніць, што ў раскіданых курганах вакол Заазер'я на Віцебшчыне — пахаванні тысячагадовай даўнасці. У народзе гэтыя пахавальныя помнікі здаўна завуцца валатоўкамі, французскімі магіламі, курганамі. Паводле паданняў, гэта пахаванні часоў нашэсця Напалеона. Цяжка нават старым паверыць, што тысячу гадоў назад тут былі пахаваны іх продкі.

— У XI—XII стагоддзях, — расказвае старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР Людміла Дучыц, якая праводзіла раскопкі курганоў у Лепельскім раёне Віцебскай вобласці, — на беразе возера Борань існавала старажытнае паселішча, за паўтара кіламетра ад якога засталіся пахаванні жыхароў гэтай вёскі. Мы ўжо раскапалі восем курганоў. Ва ўсіх выяўлены пахаванні XI—XII стагоддзяў, што пацвярджаюць нашы ўяўленні ў цэлым аб культуры крывічоў. Па набору ўпрыгажэнняў мы можам адрозніць жыхароў адной вёскі ад другой. Асабліва пацвердзілася этнічная прыкмета, характэрная для полацкіх крывічоў: скроневыя колцы з дроту, якія крывічанкі прымацоўвалі да галаўнога ўбору. Жанчыны Полацкага княства насілі дробныя бісерныя пацеркі ў спалучэнні з золаташклянымі. Практыкаваліся розныя спалучэнні колеравых гам і аднатонныя — зялёныя, сінія, жоўтыя. Пасля таго, як апрацуем знойдзеныя пацеркі, даведаемся састаў шкла, закартаграфуем іх, яны "ажывуць" і раскажуць нам пра гандлёвыя шляхі, дапамогуць прасачыць, як залачоныя пацеркі траплялі ў тую ці іншую вёску. Праўда, у гарадах мала насілі пацеркі. У модзе былі шкляныя бранзалеты.

Дарэчы, аб бранзалетах. У адным з курганоў мы знайшлі незакончаны бронзавы бранзалет XI стагоддзя. Яго арнамент стылізаваны пад галаву змяі. Перадгісторыя такая: у беларусаў, як і ў прыбалтаў, быў вельмі развіты культ змяі. Таму такія ўпрыгажэнні атрымалі распаўсюджанне на паўночным захадзе Беларусі.

...А можа, і, сапраўды, ёсць нешта ў гэтым бясхітрасным жаночым упрыгажэнні, калі дайшло яно да нас, сённяшніх, як вестка ад прашчураў, каб прыадчыніць новыя старонкі жыцця роднай зямлі?..

НА ЗДЫМКУ: у раскопках старажытных курганоў прымаюць удзел школьнікі А. МАКАРЧУК, Ю. ЛАДЗІЦКІ, А. КІСЯЛЁЎ.

Фота Я. БЫКОЎСКАГА.

## ПАДПІСЧЫКАМ І ЧЫТАЧАМ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ», УСІМ ПРЫХІЛЬНІКАМ ГАЗЕТЫ!

НАГАДВАЕМ, ШТО ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСКА НА НАШ ШТОТЫДНЁВІК НА 1992 ГОД. У МЕЖАХ БССР І СССР ПАДПІСНАЯ ЦАНА СКЛАДАЕ 4 РУБЛІ 16 КАПЕЕК, ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63854.

А ТАКСАМА ДАВОДЗІМ ДА ВЕДАМА НАШЫХ ЗАМЕЖНЫХ СУАЙЧЫННІКАЎ: ВЫ МОЖАЦЕ АФОРМІЦЬ ПАДПІСКУ НА "ГОЛАС РАДЗІМЫ", АЛЬБО ЗВЯРТАЮЧЫСЯ Ў МАГАЗІНЫ І ПРАДСТАЎНІЦТВЫ "МІЖНАРОДНАЙ КНІГІ", ШТО ДЗЕЙНІЧАЮЦЬ У КРАІНАХ ВАШАГА ПРАЖЫВАННЯ, АЛЬБО НЕПАСРЭДНА Ў РЭДАКЦЫЮ НАШАГА ВЫДАННЯ. ПАДПІСНАЯ ЦАНА НА ГОД $ 13, ІНДЭКС 63854.

КАБ ПАЗБЕГНУЦЬ ЦЯЖКАСЦЕЙ, ПАМЫЛАК, БЮРАКРАТЫЧНАЙ ПЕРАПІСКІ, НЕ АДКЛАДВАЙЦЕ СПРАВУ НА ЗАЎТРА, АФАРМЛЯЙЦЕ ПАДПІСКУ НА БУДУЧЫ ГОД ЗАГАДЗЯ.

# ЗОРКА ЯГО ШЧАСЦЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

цы без абароны дысертацыі. За свае навуковыя працы ён атрымаў дзве прэміі Рускага астранамічнага таварыства і прэмію ад Парыжскай акадэміі навук.

У 1914 годзе, калі пачалася вайна, 67-гадоваму вучонаму давялося разлучыцца з Астрафізічнай лабараторыяй Ленінграда і з многімі навуковымі планамі. Якраз у гэты час ішла падрыхтоўка да назірання поўнага сонечнага зацьмення, паласа якога праходзіла паблізу Алма-Аты. І гэта ў значнай ступені вызначыла месца эвакуацыі астраномаў з Ленінграда.

З гэтага часу Гаўрыла Адрыянавіч працаваў і жыў у горадзе Алма-Аце ў сістэме Акадэміі навук Казахскай ССР. За заслугі ў навукова-даследчай працы па вывучэнню прыродных рэсурсаў Казахстана Ціхаў быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга і медалём "За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гадоў". У 1946 годзе ён быў выбраны акадэмікам Акадэміі навук Казахскай ССР.

Гаўрыла Ціхаў быў ганаровым членам некалькіх навуковых таварыстваў і арганізацый. Ён удзельнічаў у дваццаці навуковых экспедыцыях, у тым ліку ў пяці экспедыцыях для назірання поўнага зацьмення Сонца. Не раз ён выязджаў з дакладамі і паведамленнямі на міжнародныя кангрэсы, навуковыя канферэнцыі і сімпозіумы. У канцы 1946 года Гаўрыла Адрыянавіч выбіраецца ганаровым членам Амерыканскага астранамічнага таварыства. А ў 1959-м — ганаровым акадэмікам Акадэміі навук БССР.

Памёр Гаўрыла Ціхаў у Алма-Аце 25 студзеня 1960 года на 85-м годзе жыцця.

Няўмольная смерць вырвала з жыцця нястомнага дзеяча навукі, з гушчыні спраў і падзей — рэдкай душы Чалавека.

Добрыя ўспаміны аб ім захаваліся ў асяроддзі тых, з кім ён працаваў. Гэта быў чалавек, цалкам аддадзены навуцы, няўрымслівай душы і цвёрдай грамадзянскай пазіцыі, прынцыповы і мэтанакіраваны.

Жыхары Смалявічаў захоўваюць памяць пра свайго славутага земляка Гаўрылу Ціхава. Яшчэ пры яго жыцці вучні сярэдняй школы № 1 пастаянна з ім перапісваліся.

А. Суслаў выдаў манаграфію "Гавриил Адрианович Тихов". Кніга прысвечана жыццю, навуковай і грамадскай дзейнасці буйнейшага савецкага астранома. Галоўную ўвагу ў ёй аўтар удзяліў разгляду розных галін астраноміі і таму ўкладу, які ўнёс Г. Ціхаў у развіццё перш за ўсё астрафізікі, а таксама міжпланетнага і міжзорнага асяроддзя, даследавання атмасферы зямлі, планет Марса і Сонца. Кніга ўяўляе сабой сур'ёзнае даследаванне, яна напісана пераважна на архіўным матэрыяле і аналізе навуковых прац Г. Ціхава. Багата ілюстравана.

Як вядома, зоркі стагоддзямі служылі арыенцірамі для мараплаўцаў і падарожнікаў. Павышэнне надзейнасці "маякоў" на небасхіле вельмі важна для навукі і практыкі. Гэта патрэбна для высокадакладнага вывядзення касмічных апаратаў у строга зададзены пункт арбіты, атрыманых са штучных спадарожнікаў каардынат пунктаў зямной паверхні, дзе, напрыклад, церпіць катастрофу судна або пачынаецца пажар. Без такіх арыенціраў не абысціся геадэзістам, картографам, навігатарам.

Сістэма і методыка даследаванняў Г. Ціхава, яго навуковыя адкрыцці з'яўляюцца актуальнымі і ў наш час. Вынікі яго навуковых прац становяцца ўсё больш значнымі. У архіве Акадэміі навук БССР захоўваецца справа Г. Ціхава, у якой даецца спіс-пералік навуковых прац і выданняў вучонага за подпісам самога аўтара. Апошняе выданне значыцца пад 203-м нумарам і датуецца 1955 годам, калі аўтару было ўжо 80.

Савелій АКУЛІЧ.

## НАРОДНЫ МАЙСТАР

Цікавы самакат Івана Карнея са Смаргоні можна ўбачыць у раённым краязнаўчым музеі. Рама гэтага веласіпеда драўляная, шынай для пярэдняга кола служыць трубка трафейнага процівагаза. Каля руля ўстаноўлены тачыльны камень. Менавіта гэты камень і падказаў ідэю канструкцыі веласіпеда.

— Яшчэ ў сваёй маладосці, — расказвае Іван Мікалаевіч, — назіраў я за работай тачыльшчыка. Цяжкі станок, сумку з інструментамі і іншыя прылады людзі гэтай цяпер ужо забытай прафесіі насілі на плячах. Вось і прыйшла думка сканструяваць тачыльны станок на колах. Так з'явіўся мой трохколавы кармілец, на якім я калясіў па навакольных вёсках і вастрыў людзям нажы, тапары, пілы.

Ёсць яшчэ адно захапленне ў дзядулі Карнея. Майструе ён скрыпкі. Каля ста тонкіх інструментаў стварыў народны майстар. Купляюць скрыпкі ў Івана Мікалаевіча музыкі-самавукі, такія ж, як ён, таленты з народа.

— Купляюць, таму што бяру я нядорага, а скрыпкі ў мяне атрымліваюцца звонкія, асаблівага гучання, — з гонарам гаворыць майстар.



НА ЗДЫМКУ: Іван КАРНЕЙ са сваімі скрыпкамі.

Фота У. МЯЖЭВІЧА і А. ТАЛОЧКІ.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**НАШ АДРАС:**
220600, МІНСК,
ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97,
33-02-80, 33-03-15, 33-16-56,
33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Заказ № 1275.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12